# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 29 (1575) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 20 ЛІПЕНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.



Сяброўская размова Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова і Першага сакратара ЦК ПАРП В. Ярузэльскага са шліфавальшчыкам С. Вішнеўскім 1 ліпеня 1986 г. у Прадпрыемстве дакладных вырабаў імя К. Сьвярчэўскага ў Варшаве. Фота — Д. Квяткоўская. ЦАФ.

Гамех — гэта Гайнаўскае прадпрыемства станкавай прамысловасці лясніцтва, якое ў Гайнаўцы па традыцыі ўсё яшчэ называюць „Гаймахлес". Разам з Прадпрыемствам сухой перапрацоўкі драўніны, званым звычайна „хімічнай" і Дрэваапрацоўчым камбінатам, які разросся з даўнейшай лесапільні, вызначаюць рабочы характар гэтага падпушчанскага горада. Усе тры прамысловыя прадпрыемствы сваю радаслоўную вядуць з Белавежскай пушчы. Толькі „Гамех" з іх наймалодшы і заўсёды аставаўся неяк у цяньку сваіх прамысловых веліканаў-суседзяў.




Ляшчэ нямецкія захопнікі ў час I сусветнай вайны, каб аблегчыць сабе варварскую эксплуатацыю ляснога багацця, праклалі ў Белавежскай пушчы разбудаваную сетку вузкакалейкі. Для рамонту яе спатрэбілася майстэрня. Пад канец 1951 года, значыць 35 гадоў таму назад, з гэтай вузкачыгуначнай майстэрні выдзеліўся цэх, у якім амаль саматужным спосабам пачалі рабіць розныя прылады і абсталяванні для патрэб лясной прамысловасці.

*

Праходзіў час, мяняліся патрэбы і разрастаўся „Гаймахлес".

— Цяпер мы карыстаемся фірмовай назвай **„Гамех"**, — сцвярджае дырэктар, інж. Тадэуш Шаняўскі, які ўжо дзесяты год кіруе звыш паўтысячным калектывам гэтага прадпрыемства. Ён — радавіты варшавянін, а ў Гайнаўку завандраваў цераз адно прадпрыемства падобнага тыпу ў Ольштынскім ваяводстве.

— Але цяпер я адчуваю сябе ўжо паўнапраўным і сапраўдным гайнавянінам, — рашуча сцвярджае прапаўнальна малады яшчэ гадамі дырэктар.

Яго памочнікам па тэхнічных справах з'яўляецца інжынер Мікалай Ваўрэшук, а за эканоміку прадпрыемства нясе тут адказнасць магістр Анатоль Ахрыцюк. Пад яго апеку галоўны дырэктар якраз і перадаў мяне. Твар пана Анатолія адразу выдаўся мне вельмі знаёмы. Напэўна, падумаў я, сустракаліся мы недзе разам, калі я бываў у асяроддзі гайнаўскага беларускага актыву. І гэта праўда. Анатоль Ахрыцюк выводзіцца з вёскі Скупава, што каля Нараўкі. У 1967 годзе закончыў Гайнаўскі ліцэй з беларускай мовай навучання, затым папаўняў свае веды на эканамічным аддзяленні Люблінскага універсітэта і пасля дзесяцігадовага прабывання ў Ломжы вярнуўся ў свае родныя мясціны, спярша як галоўны спецыяліст у „Гамеху", а затым даверылі яму пасаду намесніка дырэктара па эканамічных справах.

Пры суровых умовах гаспадарчай рэформы, калі кожнае прадпрыемства можа разлічваць толькі і выключна на свае сілы і магчымасці, роля эканамічнага дырэктара асабліва важная і адказная.

— Бачыце, неяк спраўляемся, — сцвярджае дырэктар Ахрыцюк. — Банкруцтва пакуль што нам не пагражае, хаця клопатаў з нармальнай, планава наладжанай, працай маем хаця адбаўляй! Вынікае гэта перш за ўсё з нерытмічных паставак неабходных нам матэрыялаў і рознага тыпу дэталяў. Адным словам, падводзіць славутая кааперацыя. А калі хтосьці нас падводзіць, тады і мы ў адносінах да

(Працяг на стар. 3)




## У ГОНАР З'ЕЗДА

Ад пачатку бягучага года ў грамадскім жыцці нашай краіны адчуваўся канструктыўны зрух: ПАРП рыхтавалася да свайго чарговага з'езда, і гэтая падзея глыбока пранікла ва ўсе галіны нашага жыцця. Палітычная, арганізуючая і кіруючая роля партыі адабрэцца пераважнай большасцю насельніцтва нашай краіны, у тым ліку і намі, беларусамі. Аб гэтым сведчыць многа падзей, між іншымі і той факт, што для ўшанавання X з'езда ПАРП жыхары Беласточчыны масава прыступілі да грамадскіх пачынаў.

Вось, напрыклад, па ініцыятыве Гмінная камітэта ПАРП у Міхалове, які ўзначальваецца Тадэушам Брадзінскім, 6 мая было пасаджана 1 га лесу. У гэтых працах удзельнічала 50 асоб і вартасць яе ляснікі ацанілі на 10 тыс. зл.

31 мая грамадскі пачын у Міхалоўскай гміне спалучаны быў з фэстынам. Адбываўся ён непадалёк Залешанаў і Ялоўкі. 130 чалавек добра папрацавалі пры карчаванні земельных угоддзяў. Сяляне выкарыстоўвалі ў пачыне ўласныя трактары, вазы і іншыя прылады.

З набліжэннем партыйнага з'езда грамадская актыўнасць насельніцтва павышалася. У штодзённай нармальнай працы пачала адчувацца своеасаблівая адметнасць, святочнасць.

*

У гонар X з'езда ПАРП у Дубяжыне (гміна Бельск Падляшскі) у першым паўгоддзі школьнікі (67 асоб) са сваімі бацькамі выканалі грамадскія працы на суму 188 тысяч злотых. Прывезлі на школьны пляц пад аздобныя насаджэнні 187 вазоў зямлі, уклалі 623 панельных блокаў пры ходніку, пасадзілі 1123 штук дрэўцаў, ружаў і іншых аздобных кустоў.

Школа сваімі грамадскімі сіламі прыступіла да пабудовы спартыўнай пляцоўкі, якая займае 500 кв. метраў. Будзе там месца для іграў у баскетбол, футбол, валейбол, бегавая да-

(Працяг на стар. 2)

**УВАГА: ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ — РАСКЛАД АЎТОБУСАЎ ПКС З ГАЙНАЎКІ**

# КУПАЛЛЕ, КУПАЛЛЕ...

„Знайшоўся адзін чалавек, які захацеў кветку папараці сарваць. Дзяды адгаворвалі яго ўсяляк, тлумачылі яму, што як свет божы стаіць, нікому яшчэ не ўдалося сарваць тую кветку...“ — так баецца ў беларускай казцы. — „А на Купалу кожнаму якась сумна. Ці праўда, ці не, што баюць людзі, нібыта на Купалу правіць шабас усялякая нечысць. Лепш начаваць дома, спакайней, чым у лесе...“

Агонь не баіцца ніводнай „нечысці“. Ён прагоніць мары і зло, ён сагрэе. Ён — сімвал жыцця, зямлі і сонца. Распальвалі людзі вогнішчы ў ноч з 23 на 24 чэрвеня, у ноч паяднання дня і ночы, калі наліваецца жыццерадаснай летняй сілай плод. Нічога, што тады не спяць злыя духі і ведзьмы — павядзем карагод вакол вогнішча, пераскочым агонь наўскрыж. Праўда, карагод сучасны, у рытме полькі ці вальса, а праз агонь скачуць юнакі і дзеўкі ў світках са штучнага льну. Яны прыехалі над Нарву на механічных конях з Беластока, Бельска, Гайнаўкі, Рыбалаў, Гарадка...

Беларускія калектывы вечарам 28 чэрвеня г.г. спачатку выступілі ў навакольных вёсках. Гайнаўскі хор, пад кіраўніцтвам Аляксандра Лукашука выступіў з вялікім канцэртам у вясковым доме культуры ў Рыбалах. Беластоцкі і Гарадоцкі хоры, якімі кіруе Сцяпан Копа, спявалі ў Дарожках. Бельскія „Васілёчкі“ на чале з Сяргеем Лукашуком завіталі ў Плёскі. „Парнас“ з Янкам Морданем выступіў у Гацьках. Пасля ўсе разам з Рыбалаў кавалькадай, папярэджанай БГКТоўскай чорнай волгай, паімчаліся па мокрай дарозе над Нараў каля Войшкаў. Пад вечар разбушавалася бура: сыпаў густы дождж, зіхацелі маланкі. Гэтак было і ў мінулым годзе. Калі ўсе выйшлі на ўзгорак над рэчкай, прырода заціхла.

Цёпла. Мокрае зелле прагна сохне. Валасатае лісце маліны, з якога звіваю вяночак, сухое, пякучае, гарачае. Дыхае рэчка. Скідаю туфлі, бягу па калючай траве і пяску ўніз, да рэчкі. Вада цёплая, быццам падагрэтая...

— Гэта ад вогнішча, — жартуе Янка Целушэцкі.

Запалілі вогнішча ад вярха, каб памалей гарэла, пакуль хлопцы і дзяўчаты з „Парнаса“ пад кіраўніцтвам Янкі Морданя (сёння — у лапцях) разгорнуць перад намі гісторыю народнага свята, прыпаднясуць прыгажосць беларускага слова Янкі Купалы. „А хто там ідзе ў агромністай такой грамадзе? — Беларусы!“ Вершы пераплятаюцца песнямі. У вялікім крузе вакол высокага палымнеючага кастра стаім ціха, а водблеск агня бегае па нас, па траве, па надрэчных зарасніках, а іскры мігатлівым снапом шугаюць уверх, у чорнае неба.

Спяваем. Кожны калектыў над сваім вялікім, прыгожым вянком, на якім гараць свечкі. Жанчыны з Гарадка (з Юркам Налівайкам) прыбралі найпрыгажэйшую, светлую „летнюю“ сяброўку ў белую вопратку, у рукі далі букет зелля. Яна павядзе ў поўнач шэсце з песнямі і вянкамі на рэчку. Сочым за гэтымі вянкамі, якія ліюць трапятлівае святло на чорную спакойную ваду. На доўгую хвіліну наступае цішыня. Вяртаемся да вогнішча.

Наступае радаснае святкаванне, якое працягваецца да 3-й гадзіны. Хто як можа і ўмее спявае, танцуе, скача. Люба Гаўрылюк у белым фартусе ўзнікае то сям, то там і корміць нас то каўбаскамі, то бігосам. Усім хапіла. На доўгіх палачках шыпяць каўбаскі, чырванеюць задаволеныя абліччы...

Блякне цемра, сівее небасхіл. Каля жоўтай палавінкі месяца зіхаціць адна зорачка. За рэчкай з імглы выплываюць стагі і ўзлескі. Над вадой цягнуцца лёгкія кускі тумана. Відаць ужо палаткі турыстаў. У халоднай расе стаяць моўчкі аўтобусы. Збіраемся дахаты. Яшчэ заліць вадою астаткі вогнішча, сабраць свае пажыткі, прыбраць поле.

Праз год прыедзем сюды зноў, як прыязджалі год таму і сотні год назад, на Купалле. Запрашае нас беластоцкі гарадскі аддзел БГКТ — арганізатар адраджэння гэтых цудоўных нашых традыцый.

**Міра Лукша**



Колішняе Купалле. Графіка У. Петрука.

# ПРА БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІЯ ЛІТАРАТУРНЫЯ СУВЯЗІ

**Польскае „Państwowe Wydawnictwo Naukowe“ ў 1985-6 гадах выдала двухтомны энцыклапедычны даведнік „Польская літаратура“. Ён мае паўтары тысячы старонак, дзе змешчаны матэрыялы як па актуальных праблемах польскай літаратуры, творчасці многіх пісьменнікаў, так і па тэарэтычных пытаннях яе развіцця. З яго можна даведацца і пра сувязі польскай літаратуры з рускай, беларускай, украінскай, англійскай, французскай, іншымі літаратурамі свету.**

**Аўтар артыкула „Польска-беларускія літаратурныя сувязі“ прафесар Мар'ян Якубец падкрэслівае, што беларуская мова паходзіць з агульнаславянскіх каранёў. Ён называе імёны такіх дзеячоў літаратуры і культуры, як Францішак Скарына, Сымон Будны, Сімяон Полацкі, расказвае пра літаратурнае жыццё на Беларусі ў пазнейшыя часы, спыняецца больш падрабязна на дзевятнаццатым стагоддзі, калі ў літаратуры працавалі Ф. Багушэвіч, В. Дунін-Марцінкевіч, У. Сыракомля, Э. Ажэшка. Звяртаецца ўвага на тое, што А. Міцкевіч ведаў і высока цаніў беларускую мову, у сваёй творчасці многа чэрпаў з беларускіх народных крыніц. Польскія філолагі таксама вывучалі беларускую мову, фальклор. Шмат увагі ў артыкуле ўдзяляецца ўзаемнаму перакладу, адлюстраванню беларускай тэматыкі ў польскай літаратуры** і, наадварот, польскай — у творчасці беларускіх пісьменнікаў.

Аўтар падкрэслівае, што пачэснае месца ў гісторыі польска-беларускіх літаратурных сувязей займаюць Янка Купала і Якуб Колас. Ён расказвае аб дзейнасці ўдзельнікаў рэвалюцыйнага падполля ў Заходняй Беларусі паэтаў М. Танка, П. Пестрака, В. Таўлая, М. Машары, аб іх дружбе з польскімі пісьменнікамі, якія групаваліся вакол прагрэсіўнага віленскага часопіса „Папросту“. Звяртае ўвагу аўтар і на той факт, што ў 30-я гады пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі існавала секцыя польскіх пралетарскіх пісьменнікаў, члены якой перакладалі творы беларускай літаратуры.

Пасля другой сусветнай вайны, калі стварыліся ўмовы для сапраўднай дружбы паміж Польшчай і СССР, у галіне літаратурных сувязей, на думку аўтара, зроблена больш, чым за ўвесь папярэдні час. На Беларусі асобнымі выданнямі выйшлі творы А. Міцкевіча, Ю. Славацкага, М. Канапніцкай, Ю. Тувіма, У. Бранеўскага, анталогія польскай паэзіі і іншыя. Пераклады з польскай літаратуры змяшчаюць часопісы, газеты, штогоднік „Далягляды“. Прэса друкуе мноства матэрыялаў аб жыцці ў Польшчы. Польская тэматыка знаходзіць адлюстраванне ў творах беларускіх пісьменнікаў. У Навагрудку адкрыты музей Адама Міцкевіча.

У артыкуле таксама расказваецца пра тое, што зроблена ў сацыялістычнай Польшчы для папулярызацыі беларускай літаратуры. Названы перакладзеныя на польскую мову кнігі Я. Купалы, Я. Коласа, К. Крапівы, М. Танка, В. Быкава, І. Шамякіна, „Я з вогненнай вёскі...“ А. Адамовіча, Я. Брыля і У. Калесніка, анталогія беларускай паэзіі, зборнік апавяданняў „Мае мядзведзі“. Адзначана роля Лодзінскага выдавецтва ў выпуску твораў беларускіх пісьменнікаў. Названы таксама імёны найбольш актыўных перакладчыкаў і даследчыкаў беларускай літаратуры ў братняй краіне і выданні, у якіх змяшчаюцца матэрыялы пра польска-беларускія літаратурныя сувязі, пра творчасць асобных пісьменнікаў. Вывучэннем беларускай літаратуры і польска-беларускіх сувязей займаюцца ў Інстытуце славяназнаўства Польскай акадэміі навук, на Кафедры беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце, у іншых універсітэтах. На Беласточчыне працуе група мясцовых беларускіх літаратараў.

Асобныя даведкі прысвечаны як польскім, так і тым замежным пісьменнікам, чыя творчасць звязана з польскай літаратурай, з польскай тэматыкай. З беларускіх пісьменнікаў у выданне ўключаны Максім Танк і Янка Брыль. Пра паэзію М. Танка, у прыватнасці, сказана, што яна наватарская, па зместу сацыяльная і нацыянальная, ахоплівае шырокую этычна-філасофскую праблематыку і займае вядучае месца ў беларускай літаратуры. У даведцы падкрэслена, што паэт — вялікі прыхільнік беларуска-польскага супрацоўніцтва. Названы выданні твораў М. Танка ў Польшчы і адзначана яго перакладчыцкая дзейнасць.

У даведцы, прысвечанай Янку Брылю, гаворыцца, што тэматыка яго творчасці цесна звязана з жыццём Заходняй Беларусі. На пісьменніка мелі ўплыў польскія літаратурныя традыцыі, польскія матывы выступаюць у многіх яго творах. Таксама адзначаны пераклады Я. Брылем твораў польскіх літаратараў і названы кнігі пісьменніка, якія выйшлі ў братняй краіне.

Уключылі і даведкі пра Сцяпана Александровіча, Валянціну Гапаву, Уладзіміра Казбярука, Алега Лойку, Адама Мальдзіса, якія многія свае публікацыі прысвяцілі польскай літаратуры, братнім узаемасувязям.

Змешчаныя ў энцыклапедычным даведніку матэрыялы даюць сканцэнтраваны малюнак гісторыі беларуска-польскіх літаратурных сувязей, іх пашырэння на сучасным этапе.

**Аляксей Гардзіцкі**
„Голас Радзімы“

 

## КАБ ЛЕПШ ПРАЦАВАЛІ

**У мінулым і бягучым годзе актыўна дзейнічала камісія бытавых спраў ВЗСР у Беластоку. Ёю кіруе выдатны спулдзельчы дзеяч Антось Мацкеўскі. Думаю, што яе дзейнасць павінна быць прыкладам добрай работы для камісій у ГСах. Камісія адбывае пасяджэнні ў Беластоку, але і выязджае часта ў розныя мясцовасці ваяводства. Тут радныя задаюць пытанні, дыскутуюць, прымаюць рашэнні. На ўсе закранутыя справы адказваюць працаўнікі ВЗСП, ГС.**

**А ставяцца розныя справы: каб большую ўвагу звярнуць на падрыхтоўку да дзейнасці бытавых камісій, больш актыўна дзейнічаць у галіне культуры і асветы на вёсках, прапагандаваць звышпадставовыя школы ЦЗС, павышаць кваліфікацыі кіраўніцтва ГС у галіне спулдзельчага права, адпаведна выкарыстоўваць фінансавыя сродкі на бытавыя патрэбы членаў, апрацаваць план рамонтаў аб'ектаў адпачынку. Вырашылі таксама стварыць гістарычную камісію ВЗСР, аб'явіць конкурс на самы актыўны членскі камітэт у ГС, арганізаваць адпачынак для вясковай моладзі. У кожнай ГС мусіць быць клуб селяніна. Трэба арганізаваць сустрэчы з настаўнікамі для пашырэння дзейнасці школьных кааператываў. Усіх дзяцей працаўнікоў кіраваць на летні адпачынак. Неабходна выбіраць членаў надзорчых рад на сходах членаў. Вырашылі таксама арганізаваць 2-дзённую сустрэчу з старшынямі рад надзорчых ГС і павысіць удзелы членаў да 1000 зл. Гэта толькі некаторыя заўвагі камісіі. Думаю, што камісіі ў ГС паставяць падобныя праблемы ў сваім асяроддзі. А гэта будзе карысна для яе членаў і насельніцтва.**

**А. Закройшчык**

### АСФАЛЬТ У НАРВЕ

Важнейшая вуліца ў Нарве — вуліца А. Міцкевіча (раней вул. Рыбацкая) — брукаваная. Брук гэты быў стары і даволі выбоісты. Таму часта яго рамантавалі. Каб быў тут меншы рух, асаблівa грузавікоў, пабудавалі другую дарогу па-за пасёлкам, гэтак званую „абваднiцу".

У мінулым годзе на вул. Міцкевіча пабудавалі падземную каналізацыю, каб пасля праліўных дажджоў не стаялі лужы. Затым пачалі пракладваць тратуары. Нараўчане (кожны на свой падворак) зрабілі праезды з трылінкі, прыгожыя брамы і парканы.

Сёлета на вул. Міцкевіча і на Першамайскай плошчы ў цэнтры пасёлка над ракой Нарвай пакладзены асфальт. **(ЯЦ)**

## АДГАЛОСКІ

### ХАЧУ СЛУХАЦЬ!

Шаноўная Рэдакцыя. Вы пішаце слухаць у суботы а 18-й гадзіне беларускія песні. Я вельмі ахвочы паслухаць не толькі родныя песні, але і наогул перадачы на беларускай мове. Але гэта мне недаступна, бо не маю радыёпрыёмніка на ультракароткія хвалі ды і чуваць, як кажуць людзі, на гэтых хвалях тым горш, чым далей ад горада Беластока, а за 60-70 км ад яго — нічога не пачуеш. А беларусы жывуць па ўсёй Польшчы. Усім ім вельмі хочацца паслухаць перадачы на роднай мове і то не паўгадзіны, але цэлую гадзіну. Таму неабходна, каб адпаведныя інстанцыі і ўстановы паклапаціліся павялічыць перадачу на беларускай мове і высылаць яе ў эфір на доўгіх хвалях, тады яе зможа пачуць кожны беларус — грамадзянін Народнай Польшчы.

**Іван Семянюк** з Козлікаў

**Ад рэдакцыі.** *Лісты і вусныя выказванні, з такімі як І. Семенюка патрабаваннямі, мы атрымоўваем і чуем вельмі часта. ГП БГКТ і „Ніва" падтрымліваюць іх і перадаюць адпаведным інстанцыям і ўладам.*

## РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ




**Сялянская хата з другой паловы XIX ст. у Наройках гм. Драгічын. Графіка У. Петрука.**

## ДЗЯЎЧАТЫ З АДНАЕ ФАТАГРАФІІ

Забягаючы крыху наперад, скажу, што будзе гэта расказ пра гісторыю нашага беларускага лёсу на працягу мінулага сямідзесяцігоддзя, але згушчанага да трагічнай гісторыі адной звычайнай сялянскай сям'і.

А ўсё пачалося ад візіту ў нашай рэдакцыі Надзеі Дудзік — паэтэсы з Гарадка.

Я ў вёсцы беднай радзілася
І дваццаць пяць гадкоў там
пражыла.
Сярпом збожжа ў полі жала
І на чужы загон за грош ішла.
Тады прыладамі звычайнымі
бывалі:
Каса, сярпочак, а ўзімку
— цэп.
І ўсе так цяжка працавалі
На гэты з жорнаў чорны хлеб.
А ў жорнах жыта ўсе малолі,
Касой касілі сенакос
І летам ў ятады хадзілі,
Каб хтосьці ў Крынкі іх занёс
Ды там прадаў па дзесяць
грошай —
За кілаграм была цана...
І ўсе хадзілі з нашай вёскі,
Не думайце, што я адна.

Яна заўжды знойдзе штосьці трапнае ў сваёй творчасці, каб нас прывітаць, развесяліць ці прымусіць задумацца над чалавечым лёсам. І не важна тое, што яе вершы, як свежа ўзараныя загоны, важна шчырасць яе беларускай душы...

— Ой, даражэнькія, я вам штосьці сёння прынесла! — і Надзя Дудзік пачала корпацца ў сваім жаночым партфелі. З нейкіх папераў высунулася старая фатаграфія.

— Ці можна паглядзець? — пацікавіўся я.

— Калі ласка, гэта мае сёстры і я разам з імі.

Глядзелі на мяне чатыры дарослыя дзяўчыны ў народных уборах.

Я адвярнуў гэтую фатаграфію, каб паглядзець, ці выпадкова няма там нейкага паяснення. Знайшоў, аднак, толькі дату: 12-IX-1935 г.

— Гэта ж фатаграфія звыш пяцідзесяцігадовай даўнасці! — не змог я ўтаймаваць свайго захаплення.

— Быў у Крынках фатограф Лапуць, — паясніла цётка Надзя. — І мы ў яго сфатаграфаваліся для памяці.

— А ці маглі б вы расказаць нам пра лёс гэтых дзяўчат з фатаграфіі? — папрасіў я.

— Калі цяжка ўспамінаць... — усхвалявалася Надзя Дудзік і ў змучаных яе вачах заіскрыліся слёзы. Я ўжо ведаў, што выводзіцца яна з сям'і Пракопчыкаў, што нарадзілася і жыла ў вёсцы Свідзілаўка каля Крынак, што бацька іх, Мікалай, загінуў недзе на грамадзянскай вайне і маці вярнулася з „бежанства" ўдавою, прывозячы з сабою чатырох дочак і двух сыноў.

— Памятаю я гэтае вяртанне, — змагаючыся з хваляваннем, уздыхнула Надзя. — Было гэта, бадай, позним летам, бо грыбоў у лесе паявілася столькі, што граблямі можна было іх грабсці. На нашай бацькаўшчыне не захавалася ні хаты, ні хлява. Усё развалаклі нейкія людзі. Мама ўбіла калок пасярэдзіне панадворка, прывязала да яго каня і сама расплакалася горкімі слязьмі... Гэтыя грыбы нас ад галоднай смерці выратавалі... Мы іх збіралі, сушылі і абменьвалі на бульбу і муку...

Надзя доўга і вобразна можа гаварыць аб сваёй сям'і. Дык найперш пра яе братоў, якіх няма на гэтым здымку. Найстарэйшым быў Міхась, з 1904 года нараджэння. Удзельнічаў ён у дзейнасці „Грамады" і КПЗБ. Замучылі яго гітлераўцы і закапалі ля дарогі з Крынак у Адэльск.

— Другі брацік, Вінцук, з 1910 года нараджэння, таксама законачы жыццё трагічна ва ўзросце 35 гадоў. Якраз на Пятра і Паўла, значыць, 12 ліпеня 1945 года, лясная банда напала на яго хату, — паясняе Надзея Дудзік. — Ён уцякаў, але бандыцкая куля яго дагнала. Яшчэ жыў, быў паранены, дык дабілі, штыкамі закалолі... — Яна праглынула напльваючы боль і дакінула: — І мы ведалі хто. Але што ж ты зробіш, калі амністыя даравала ім усе злачынствы!

Доўга Надзея Дудзік збірала свае сілы, каб прадоўжыць расказ пра лёс сям'і Пракопчыкаў, і сабраць не змагла. Дык прыдзецца мне яе выручыць.

Сёстрам яе таксама выпаў лёс нялёгкі, а найбольш трагічна абыйшоўся ён з Верай Пракопчык (на здымку — першая злева), якая была сястрой-блізнючкай з Надзяй. Абедзве нарадзіліся ў 1912 годзе. Вера жыла ў Беластоку каля гарадскога парку, на вуліцы, якая цяпер называецца Акадэміцкай. І вось у 1943 годзе хтосьці ў гэтым парку падстрэліў каханку Эрыха Коха, намесніка Гітлера на Усходнюю Прусію і Беластоцкую акругу. Раз'юшаныя гітлераўцы ўзялі заложнікаў, у лік якіх трапіла і Вера Пракопчык. Расстралялі іх — разам 86 чалавек — у Бацечках. Сярод карнікаў, якія выконвалі экзекуцыю быў і пляменнік Веры Пракопчык, самаахоўвец Ваня, родам з Гарадка.

— Я — нямецкі аўтамат, я нічога не мог зрабіць! — апраўдваўся ён пасля перад раднёю.

Найстарэйшай з іх была Сонька (на здымку — другая злева). Яна з 1906 года нараджэння. У 1932 годзе выйшла замуж за Валодзю Лісоўскага, які жыў і гаспадарыў у Паўночным Востраве, а зараз жа пасля вайны давялося ім уцякаць у Савецкі Саюз.

— Банды іх выгналі, — паясняе Надзя Дудзік. — Тады, памятаю, у адзін дзень, з нашага наваколля сабралася аж 24 сям'і, якія рашылі пакінуць Польшчу. Мая Сонька абсталявалася ў Мінску, у сталіцы Беларусі. Жылося ім там вельмі добра.



 

 

# ЯК П'ЯНЫ З ВЯРБОЙ БІЎСЯ

Аднаго разу, познім вечарам, вяртаўся дахаты малады мужчына, які любіў выпіць. Цяпер ён таксама быў на добрым падпітку, ледзьве мог уседзець на ровары.

Яшчэ заранёў паехаў ён быў у гміну за справамі, наконт зямлі. Выхадзіўшы там усё, як хацеў, адчуў вялікую смагу выпіць, зайсці ў господу і наліць сабе горла.

У господзе той упаткаў ён сяброў, з якімі паўспамінаў і сваё кавалераванне, і так раздабрыўся, што і вечар яго там захапіў. I ўсе грошы, якія меў пры сабе, прапіў. Калі кішэні дарэшты апусцелі, і нават грашакі перасталі ў іх дзынгаць, ён злез з крэсла і памаячыў на двор. А за ім павалакліся сябры, напоеныя аж да адрыжкі. Яны доўга развітваліся з ім перад господаю, усё цалаваліся, нацалавацца не могучы. Урэшце нацалаваўшыся, пачалі разыходзіцца, хто куды дахаты.

Наш герой акірачыў свой ровар, якога — на дзіва! — ніхто не ўкраў за гэты час пад господаю, і рушыў ехаць то налева, то направа. Дарога цяпер аказалася надта ж вузкаю ды калдобістаю. Але ён неяк, усё-такі ехаў.

Так праехаў ён цераз Нараўку, праехаў і цераз Міклашэва, мінуў Лесную, і лес мінуў, што за Леснаю. I так, шчасліва, даехаў бы да самюткае тае вярбы.

**(Працяг на стар. 8)**

# ЗАРАЗА

Паважаная Рэдакцыя! Сардэчна вітаю вас, дарагія сябры, і перапрашаю за тое, што я многа часу не пісаў у „Ніву" — проста сорам прызнацца. Хачу я напісаць аб адной справе, якая многа год дакучае сялянам і нідзе не можна дайсці да праўды, хоць пра гэта і пісала ўжо Крапіва II.

Гэта праблема вызначэння якасці малака на пункце скупу ў Крушынянах. Ды не толькі ў адных Крушынянах. Пра гэта чуваць і на многіх іншых пунктах. Хачу я напісаць аб тым, як праводзіцца акрэсленне якасці і чысціні малака і чаму малако дзеляць на ўсялякія гатункі ці сарты малака, а менавіта класы I-II і пазакласнае, а затым усе гэтыя гатункі зліваюць у адну пасудзіну і, калі прыязджае інструктар з лабаранткай, дык яны не правяраюць малака кожнага гаспадара, а толькі тое малако, якое пакажа зляўняр. Пры тым пераморгваюцца паміж сабою. Людзі з-за такіх вызначэнняў паносяць вялікія страты, бо пазакласнае малако вельмі таннае. Гаспадара, чыё малако залічылі да пазакласнага, не паведамляюць, што малако слабой якасці, і ён даведваецца пра гэта тады, калі прыдзе яму плата за малако. I так, за паўмесяца пазакласнага, за другую палову — слабы працэнт тлушчу і гаспадар амаль задарма аддае ды нідзе не можа дапытацца, чаму гэта так робіцца. Няўжо ж чалавек сам сабе вораг? Ці будзе ліць у сваё малако ваду або якую брыду, прадаючы ў дзень 60-80 літраў малака? Гэтае пазакласнае і са слабым працэнтам малако, як якая ліхая хвароба, пераходзіць кожны месяц на іншага гаспадара. Скажыце, людкове, дакуль гэтая зараза будзе мучыць сумленных сялян? Ці няма на яе ніякіх лекараў і лякарства? А што робяць кантрольныя органы?

**Сталы чытач**

# „Ніва" дапамагла

У „Ніве" ад 1 чэрвеня г.г. пісалі мы пра занядбанае скрыжаванне вуліц Відаўскай і Аградовай у Бельску. Была гэта нататка Андрэя Гаўрылюка „Усё каб хтосьці".

Як даведваемся, дзіры і іншыя недагляды на гэтым скрыжаванні ўжо ліквідаваны Раёнам публічных дарог. Гэта добра, але гэта адначасова наводзіць на сумныя думкі: трэба ажно пісаць у газеце пра тое, што павінна быць зроблена адразу, без аніякага шуму ці дамаганняў. Няўжо не бачылі гэтых сваіх недаробак тыя, што правілі работы на тым скрыжаванні?. Няма сумнення, што бачылі, напэўна яны бачылі іх, але ў нас завялася здаўна агідная звычка: як найменш рабіць, а калі ўдаецца, дык і наогул нічога не рабіць, адно грошы браць і хваліцца гэтым сваім, не вельмі каб разумным спрытам! Вінавата ў гэтай нядбайнасці Wojewódzkie Przedsiębiorstwo Inżynieryjno-Geologiczne Budownictwa Komunalnego w Białymstoku.

(Р)

# НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

W odpowiedzi na notatkę pt. „Czamu u suboty nie stryhuć" w „Niwie" nr 22, dnia 1 czerwca 1986 r. w sprawie nieczynnych w sobotę 15 marca br. zakładów usługowych fryzjerstwa męskiego na terenie m. Hajnówki informuję, że:

1. Zgodnie z ustaleniami Zarządzenia Nr 6/86 Naczelnika Miasta Hajnówki z dnia 16 kwietnia 1986 roku oraz wcześniej obowiązującym zarządzeniem, wszystkie zakłady usługowe branży fryzjerstwo męskie i damskie o obsadzie jedno- i wieloosobowej powinny być czynne w każdą sobotę.

2. W wyniku przeprowadzonej kontroli w dniu 7 czerwca br. stwierdzono jednak, że część tych zakładów nie przestrzega ustalonego czasu pracy w soboty i była zamknięta.

Mając powyższe na względzie, pismem z dnia 10 czerwca br. zobowiązano właścicieli wszystkich zakładów fryzjerskich do przestrzegania ustalonego czasu pracy oraz umieszczenia w widocznych dla klientów miejscach informacji o godzinach otwierania i zamykania zakładów w określonych dniach tygodnia.

Odpisy wystąpień skierowane zostały do wiadomości jednostkom usługowym oraz Cechu Rzemiosł Różnych w Hajnówce celem nadzoru nad pracą tych zakładów.

Urząd Miasta Hajnówka
Zastępca Naczelnika Miasta
**mgr Jadwiga Rudzińska-Patejuk**



Мелі вялікую і прыгожую кватэру. Яна была найздальнейшай з нас усіх. Пісала вершы і апавяданні, вышывала, ткала і прыгожа малявала. Ад 11 мая 1985 года, няма, на жаль, яе сярод жывых. На месяц раней мне пашчасцілівілася пабываць у яе ў Мінску і развітацца, на жаль, аказалася, што назаўсёды.

— А вось гэтая, што на здымку, — наймаладзейшая, — паказаў я дзяўчыну, першую з правага боку.

— Гэта Аляксандра, якую ў сям'і называлі мы Сашай. Яна цяпер у Вроцлаве. I па мужу носіць прозвішча Багута. А муж яе — адстаўны афіцэр, падпалкоўнік.

I зноў Надзя прыгадала штосьці балючае ды горкае. Аказваецца, што іх Саша зведала гітлераўскую турму ў Беластоку, а затым прайшла цераз пекла лагераў смерці.

— Адзін тутэйшы чалавек набрахаў на яе, што яна камсамолка, нават сам асабіста патрабаваў ад Сашы, каб яна аддала яму свой камсамольскі білет. А яна яго ў слоіку закапала пад вішняй, — паясняе Надзя Дудзік.

Пара тады і слова пра яе, пра Надзею Дудзік (на здымку — другая справа).

— А што ж тут пра мяне гаварыць! — адмахваецца паэтэса! — Сялянка я і годзе. I люблю я гэтую знясільваючую сялянскую працу. Найперш — разам з мамай, а пасля, калі на 25-ым годзе жыцця высваталі мяне ў Гарадок, за Дудзіка, за Аляксандра, дык і з мужам дзень у дзень дома і ў полі, а здаралася, што і ў лесе ад світання да цямна... Ад 8 жніўня 1977 года я — удава. Але да партыі яшчэ і сёння прыналежу і маладыя дзеячы, што цяпер перанялі ўладу, лічацца з маім голасам.

У яе скромненькай хатцы на вул. Міхалоўскай у Гарадку бачыў я на ганаровым месцы, у рамках, віншавальны ліст ад I сакратара Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку з нагоды саракагоддзя юбілею прыналежнасці да партыі. Партыйны стаж Надзеі Дудзік лічыцца аднак ад 1933 года. Тады яна ўступіла ў КПЗБ. За свае заслугі ад 1975 года атрымоўвае спецыяльную крыху павышаную пенсію. Але без працы не сядзіць. Калі не даглядае ўнукаў і не займаецца хатнімі справамі, дык штосьці піша або вышывае, а летам — ідзе ў грыбы ці ў ягады. Гэта яе жыццёвая стыхія.

— Бо ў лесе, пад звонкі напеў птушак, прыходзяць да мяне найпрыгажэйшыя вершы, — прызнаецца паэтэса. А ў яе вершах — карпатае жыццё яе самой, сям'і і іх суседзяў і знаёмых, проста звычайны лёс наш супольны, як гэтых дзяўчат на старой фатаграфіі. Аб гэтым лёсе мы часта і хутка забываем. А памятаць варта, хаця б таму, каб даражыць сваёй сучаснасцю.

**Віктар Рудчык**
рэпрадукцыя фатаграфіі — аўтара



 

# ПАРНАСІК
чытальніцкая літсуполька на негарантаваных пазах

### НАША ЛЕТА

Лета працы сялянам не скупіць.
А мястовым тысячы форм
адпачынку!
Хто над мора, а хто ў горы ідзе.
Або і ў горадзе сваім адпачне.
Як жа прыемна летам у лес
пайсці.
Кашыска грыбоў дамоў
прынясці.
Ягады спеюць, чырванеюць
маліны.
Лета ўсім нам дае вітаміны.
У садках грушы і слівы наспелі.
У полі рух жніўны — поле
пусцее.
Жжалі жыта, жнуць пшаніцу
і ячмень,
Камбайны, бы танкі, гудзяць
там дзень у дзень.

**Аўрора**

## ДЗЕ ПАДЗЕЛІСЯ ЛАНЦУГІ?

Мне здаецца, што пра гэта ніхто з карэспандэнтаў не пісаў у „Ніве". Справа ў ланцугах да ровараў і матаровараў. Ці мо ўжо і карэспандэнты гэтак распанелі, што і ровар ім не патрэбны ды толькі таксоўкамі раз'язджаюць? Цікава. Журналістам „Нівы", вядома, ровар сапраўды не патрэбны і таму гэта іх не турбуе і яны не пішуць чаго ў нас не хапае. Яны пераважна пішуць пра ўсё добрае. Мо каб начальства з лавачкі не сапхнула? А якая ў нас бюракратыя, хабарніцтва, хамства?!. Колькі чаго ў нас не хапае!..

Вось хоць бы такое. Ужо некалькі год, як нідзе нельга купіць ланцуга да ровара і матаровара. І ў нас некаторыя людзі з-за недахопу ланцуга вымушаны былі купіць новыя ровары. А сёння ж ровар каштуе не тое, што ў ранейшыя гады. А ведаем і тое, што ровар — гэта самы надзейны і танны сродак руху і без яго сапраўды цяжка абыйсціся. Таму пытанне: дзе і як можна купіць ланцуг да ровара ці матаровара? Ужо не гаворачы пра другія часткі і дэталі да іх, якіх таксама няма.

**Мікалай Панфілюк**

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Ты ўсім раіш і памагаеш, мо і мне дапаможаш. Я вось у якой справе. Я вельмі кахаю адну дзяўчыну. Мы яшчэ не пабраліся. Усё было б у парадку, але людзі нагаварылі маёй дзяўчыне, што я ёй здраджваю з другой. Гэта няпраўда. І цяпер яна сказала мне, што выйдзе замуж за мяне тады, калі я ёй дакажу сваю любоў да яе. Я ўжо прабаваў даказваць. Купляў ёй падарункі і кветкі, стаў часцей ездзіць да яе, але яна яшчэ ўсё мне не давярае. І будзь тут прамудры!

Дарагое Сэрцайка! Парай мне, як я павінен даказаць дзяўчыне, што я яе кахаю. Як гэта зрабіць?

**Ёзік**

Ёзік! Дакажаш сваёй дзяўчыне вернасць не кветкамі і падарункамі, а праўдзівай прывязанасцю і заангажаваннем. Дыму без агню не бывае, дык думаю, ты ўсё ж не без віны. Знаю і такіх, што адным носяць кветкі і падарункі, а спяць, прабач, з другімі. Жанчыны на гэтыя справы вельмі ўражлівыя. Зараз такая адчуе, што нехта трэці паявіўся.

У тваім пісьме наогул адчуваецца нейкі холад. Не ведаць гарачых пачуццяў, патрэбы ўбачыць дзяўчыну, прытуліцца да яе, цалаваць, быць разам. Ты спакойна канстатуеш, што пачаў купляць кветкі і падарункі, ды нават стаў часцей ездзіць да яе. Але ўсё гэта, каб даказаць ёй, што каханне ёсць. А я думаю, што гэтага даказваць не трэба. Каханне павінна крычаць само за сябе!

Ёзік, лепш ты, браце, пачакай. Не спяшайся, бо, здаецца ні ты, ні яна яшчэ да вяселля не дараслі.

Магчыма, ёй не выпадае сказаць проста з мосту, што цябе на мужа не хоча, дык вось і выдумвае нейкія прычыны.

Адным словам, нешта з вашым каханнем не так. Паназірай без падарункаў, а пасля напішы ізноў, будзем думаць далей.

**Сэрцайка**

# БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### КАТЛЕТЫ МАЛАДЗЕЧАНСКІЯ

На 175 г свініны трэба ўзяць 185 г ялавічных нырак, 130 г мозгу, 2–3 сталовыя лыжкі цертай булкі, 1 бульбіну, 1 цыбуліну, перац, лаўровы лісток, 1 сталовую лыжку 3-працэнтнага воцату, 1 шклянку цёмнага соусу, соль.

Зняць з нырак тлушч і плёнку, заліць іх халоднай вадой і давесці да кіпення. Пасля гэтага выняць, памыць, заліць свежай вадой і зварыць. Мозг намачыць на 30–40 мінут, пасля чаго зняць з яго плёнку. Пералажыць у каструльку, заліць халоднай вадой, дадаць 1 сталовую лыжку воцату, лаўровы лісток, перац, соль і зварыць. Свініну, разам са звараным мазгом і ныркай, прапусціць праз мясарубку. Цыбулю нарэзаць, а сырую бульбіну сцерці на тарцы. Усе падрыхтаваныя прадукты дакладна перамяшаць. Дадаць прыправы па смаку і соль, а пасля гэтага зрабіць катлеты і падсмажыць. Катлеты падаем з цёмным соусам.

**Цёмны соус** падрыхтоўваем наступным чынам:

На 2 сталовыя лыжкі мукі бярэм 1 морквіну, 1 пятрушку, 1 цыбуліну, паўшклянкі памідорнага перацёру, 3 сталовыя лыжкі тлушчу, 1 чайную лыжачку цукру, 3 шклянкі мяснога булёну, 1–2 сталовыя лыжкі сухога (вытраўнага) віна (найлепш „мадэры"), соль.

Муку падсмажыць на патэльні, а пасля гэтага развесці яе мясным булёнам. Моркву, пятрушку, цыбулю і памідорны перацёр падсмажыць, усё гэта палажыць у мясны булён і варыць на малым агні мінут 20–30. У канцы дадаць соль і віно, пасля чаго соус працадзіць і давесці яго да кіпення.

**Гаспадыня**

(Працяг са стар. 7)

### ЯК П'ЯНЫ З ВЯРБОЙ БІЎСЯ

што здаўна расце ля дарогі, перад Семяноўскімі калоніямі.

Стаў ён каля тае вярбы, прыплюшчыўшы вочы пачаў разглядацца ды азірацца. Яму здалося, што прыехаў ён у самы цэнтр нейкага мястэчка, у якім мноства народу швэндаецца па вуліцах ды тратуарыках. А дарогу яму ў тым мястэчку заступіў якісьці мажны, чорны мужчына, ну, брунет над брунетамі!

— А дзе гэта я? — запытаў наш герой таго чарнабрыўца.

Але ў адказ нічога не пачуў, толькі ўбачыў, як той чорны надалей стаіць перад ім, стаіць і ні зварухнецца. І праехаць не дае, не саступае з дарогі.

— Ты чаго гэта прычапіўся да мяне!? Чаго табе трэба? А ну, зыйдзі ўбок, бо як лясну табе па мазгаўні! — закрычаў п'яны.

Аднак гэты крык і пагроза не зрабілі на тым аніякага ўражання, як бы і не пачуў ён нічога.

— Ага, калі ты так, дык пачакай: я табе зараз угрэю па скабах! — і наш герой давай лупіць кулакамі тую чарноту.

Біў, біў яго, аж змучыўся, сеў на зямлю, каб аддыхацца. Дайшоўшы да большай прытомнасці, устаў і зглядзеў, што таго ўжо няма — знік, прапаў кудысьці, быццам ветрам змецены. І дарога свабодная, едзь, хоць стрымгалоў.

Даехаўшы да свае хаты, пакінуў ровар на падворышчы, завалокся ў хату ды злёг там у ботах і адзенні ў пасцель. Спаў, як дурань пасля вяселля, а калі прачнуўся і прадзёр вочы, адчуў, што яму надта ж баляць рукі, і ўбачыў, што кулакі ў яго вельмі пакалечаныя, пасцель уся закрываўленая.

— З кім я гэта так біўся? — марудна думаў ён і нічога яму не прыходзіла ў памяць. А потым дадумаўся: няўжо было са мною такое? Відаць, праўда...

(Працяг на стар. 11)

# СОННІК

29

**Гнацца** за кім-небудзь — даб'ешся свайго, дасягнеш вызначанай мэты.

**Гнеў** — нястрыманасць у словах; у іншых — благая кампанія.

**Гной** — грошы; добрыя гады; вывозіць яго — пасля цяжкай працы вялікі даход; нюхаць — спадчына, выйгрыш; класці на воз — паніжэнне.

**Гняздо** бачыць — закахацца; будаваць — шлюб, вяселле; пустое — шкода, доўгая адсутнасць.

**Голад** — хутка разбагацееш.

**Голуб** — учыненая несправядлівасць; лятучыя — новыя знаёмствы; лавіць — страта; забіваць — страта вернага прыяцеля; есці — смутак у сям'і; карміць — добры паступак.

**Голы** мужчына — страх, жахлівасць; калі прыгожы — добры інтэрас, занятак; прыгожая жанчына — пашана, шчасце, любоўная туга; брыдкая і старая — сорам і пасмешышча; голага сябру бачыць — перашкоды, сваркі; купацца — здароўе і ўдачы; сам(а) голы(ая) — беднасць, нэндза; бегаць голым(ай) — хітры сваяк.

**Гоман** — добрая звестка.

**Гонар** страціць — засмучанне; гонар рабіць іншым — паніжэнне; з гонарам быць прынятым — шчасце; ганаровым госцем быць — наведвальнікі.

**Гонкі**, спаборніцтвы па бегу — дасягнутая мэта; прымаць у іх удзел — не занядбоўвай сваіх абавязкаў і працы.

**Горад** вялікі бачыць — павелічэнне маёмасці або багацця; прыемная змена; падарожнічаць па вялікіх гарадах — неспакой і розныя клопаты; малы горад — жыць у абмежаваных варунках, але быць шчаслівым; будаваць — пацеха, весялосць; з вежамі — незвычайная падзея, здарэнне.

## Расклад руху паяздоў са станцыі Гайнаўка

| Прыезд | Мясцовасць | Ад'езд |
|---|---|---|
| 1.06, 6.42, 8.30, 13.49, 16.47, 18.30, 21.02 | Белавежа | 4.08а, 4.48б, 6.49, 9.45 15.08, 16.50, 19.22, 22.52 |
| 6.32, 19.21 | Беласток | 3.38, 6.55, 14.11, 21.08 |
| 6.32, 8.47, 13.42, 16.06, 19.21, 22.51 | Бельск Падляшскі | 3.38, 4.36, 6.55, 10.45, 14.11, 17.08, 21.08 |
| 6.41, 9.20, 13.25, 16.41 | Цісоўка | 4.30, 7.11, 9.25, 14.35 |
| 0.37, 3.48а, 5.27, 6.44, 7.31, 13.26, 16.43, 17.47, 18.35, 21.17 | Чаромха | 2.00, 3.58, 5.33, 6.54, 9.25, 14.30, 15.33, 16.53, 18.40а, 19.28, 21.23, 22.45 |
| 0.37, 3.48, 6.44, 17.47, 21.17 | Сямяцічы | 2.00, 3.58, 16.53, 18.40 |
| 6.41, 9.20, 13.25, 16.41, 21.02 | Семяноўка | 4.30, 7.11, 9.25, 14.35, 19.28 |
| 0.37, 3.48, 17.47, 21.17 | Седльцы | 2.00, 3.58, 16.53, 18.40а |
| 3.48а, 21.17 | Варшава Ўсходняя | 2.00, 18.40а |
| 3.48а, 21.17 | Варшава Заходняя | 2.00, 18.40а |

а — ходзяць у суботы і нядзелі ў часе ад 14.06 да 21.10 штодзённа
б — ходзяць апрача субот і нядзеляў да 26.10, а ад 27.10.86 — штодзённа

# Зорка

## Старонка для дзяцей



На Дзень дзіцяці ў Нарве на стадыёне было вялікае свята. У гэты дзень урачыста быў замураваны Акт пабудовы школы, а дзеці выступілі з канцэртам. На здымку — вучаніцы школы ў час слоўна-песеннага мантажа.

Фота Я. Чэрнякевіч.

Кастусь Кірэенка

## Салавей-салавейка

Гняздзечка мясцілася проста доле, пасярод рудаватага леташняга лісця, заценenae зверху чубочкам перазімавалай травы. Алесь знайшоў гэтае гняздзечка вясною, калі аднойчы берагавым зараснікам прадзіраўся да ракі. У гняздзечку ляжалі чатыры цёмна-карычневыя ячкі. Рабаціння на іх вельмі пасавала да колеру перапрэлага лісця. Хлопчык доўга дзівіўся, як яму пашанцавала ўбачыць гняздзечка... Ён заўсёды быў пяшчотна ўсхваляваны дзівосным светам, што жыў вакол яго.

З таго веснавога дня хлопчык стаў зусім неспакойны. Калі здаралася вольная хвіліна, забываўся на ўсё і бег да ракі. Ён нічога не ведаў пра шэрую птушачку, што сядзела на ячках. Нават не знаў, як яе завуць. Але ён верыў, што яна дужа добрая птушачка. Прыемна было назіраць за ёй, прытаіўшыся за кустом ляшчыны або лежачы на мяккай купіне ў маладым дубняку. Ён усміхаўся ёй, як сваёй сястры, калі яна, не міргаючы, глядзела ў яго бок цёплымі вішнёвымі вочкамі ці абірала пунсова-шэрыя пярынкі на крыле, смешна выцягваючы шыйку...

Аднаго разу, пракраўшыся на свой назіральны пункт, Алесь не ўбачыў у гняздзечку мілай шэрай птушачкі. Сэрца ў хлопчыка спалохана ёкнула. Але зараз жа ён заўважыў у гняздзечку нешта новае. Устаўшы на пальчыкі, убачыў як спрасаваных у адзіны голы камячок чатырох птушанят.

Птушаняты выглядалі зусім кволымі, амаль нежывымі. Алесь і ўзрадаваўся і засмуціўся. „Бедныя! — падумаў ён, гледзячы на бездапаможных насельнікаў гнязда. — Якія яны безабаронныя і як цяжка ім будзе расці!.. — Чулліві, ён пачаў маляваць карціну горкай долі новых істот. — Ну, хоць і вырастуць, а што далей?.. Мінецца лета, прыдуць халады.. Куды падзецца малым птушкам? І каршун перахопіць у дарозе, і бура можа зламаць крылле... А сівернья вятры? Няўжо нельга памагчы птушанятам?!"

У ціхай задуме Алесь прыхінуўся спіною да ствала дубка.

Раптам у гняздзечку пачуўся слабы піск. Істоты, якія здаваліся нежывымі, заварушыліся, шырока параскрывалі жоўтыя дзюбкі. Алесь застыў у адной паставе, стаіў дыханне. Над гняздзечкам з'явілася Алесева знаёмая — шэрая птушачка. Яна спрытна ўчапілася ножкамі за край гнязда і, нібыта кланяючыся, пачала часта нахіляцца да сваіх дзяцей. Усе яны жаласна, тоненька ціўкалі, наперабой бязладна совалі да яе свае жаўтаротыя галоўкі. Птушачка то аднаму, то другому нешта кідала ў шырока адкрытую дзюбку.

Так працягвалася некалькі хвілін. Але вось птушачка перастала кланяцца. Як бы нешта ўспомніўшы, яна ўскінула галоўку і доўга некуды ўзіралася. „Го-ок!" — ціха выгукнула птушанятам і гэтак жа, як з'явілася, раптам пырхнула з гнязда. Птушаняты, бы па камандзе, сціхлі.

Алесь пастаяў яшчэ трохі, не мяняючы пастаы, потым зноў зазірнуў у гняздзечка. Як і раней, да прылёту маці птушаняты ляжалі на дне гнязда адным камяком. Алесю здалося, што яны ўсе дрыжаць і нячутна плачуць, як быццам ім холадна ці яны чагосьці баяцца. І яму зноў стала дужа іх шкада. І вось у гэтыя хвіліны і прыйшло рашэнне, якое потым зрабіла яго шчаслівым і няшчасным. Ён задумаў пазбавіць птушачак ад горкага лёсу, ад цяжкага змагання за жыццё. Ён задумаў забраць птушачак з гняздзечка, як толькі яны крыху падрастуць. Забраць і выгадаваць у сябе дома...

Птушаняты большалі і дужэлі хутка. Алесь наведваўся да іх траха не кожны дзень, і на яго вачах яны сталі роўныя амаль са сваёй маці. Падрастаючы, птушаняты рабіліся зусім іншыя. Цяпер яны спакойна і нават асцярожна сядзелі ў гняздзе, уважліва і пільна ўглядаючыся ў свет. Калі прылятала маці, прыносячы ім розных чарвячкоў, яны не адкрывалі раты разам, а чакалі, калі да кожнага дойдзе чарга. З дня на дзень адчувалася, што маленства ў іх канчаецца, што хутка яны пачнуць прабаваць свае маладзенькія крыльцы... Алесь баяўся ўпусціць гэты момант і стараўся найчасцей прыходзіць на запаветнае месца.

Аднак яму ўсё ж не ўдалася поўнасцю яго задума. Калі аднойчы раніцай хлопчык апынуўся ля гняздзечка, дык убачыў там толькі двух птушанят

(Працяг на стар. 10)

## Для самых маленькіх

Артур Вольскі

### Козачка

Выйшлі дзеці на лужок,
на зялёны муражок.
На лужок
на муражок
і пасталі
у кружок.

— Пачакайце трошачку,
мы станцуем
„Козачку"!..

А козачкі белыя
па мураўцы бегалі.
Па мураўцы —
скок ды скок,
патапталі
ўвесь лужок.

Казляняты выбеглі:
— Што вы траўку
выбілі?!
Ножкамі
затупалі,
рожкамі
застукалі.

Тут пастушка
выйшла ў круг:
— Не тапчыце, козкі, луг!
Рожкамі
не стукайце,
ножкамі
не тупайце!

А вясёлы пастушок
задудзеў тады ў ражок:
— Ду-ду-ду!
Ды ду-ду-ду!
З вамі ў скокі я пайду!

Ах, як добра на лужку,
на зялёным муражку!
Мы б скакалі зноў і зноў,
але нам пара дамоў!

### Захварэў парсючок

Захварэў парсючок,
лёг на левы бачок.
І на радасць мушкам
не варушыць вушкам.
І не водзіць лычам,
як яго ні клічам.

Ходзіць бабка па двары:
— Ой, памрэ!
Ой, памрэ!

Плача ўнучка Аня,
як у хлеў загляне.

Дзед
слязу ацёр з вачэй;
— Трэба доктара хутчэй!

І труцком падаўся ён
пазваніць.
Дзе тэлефон?

Не дарма стараўся дзед,
клапатаў не марна.
Прышыніў веласіпед
ўрач ветэрынарны.

(Працяг на стар. 10)

## СЛУХАЙЦЕ І СПЯВАЙЦЕ

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкаму радыё ў суботу 19 ліпеня а 18-й гадзіне.

# РУЧНІКІ

Словы В. Вярбы — Музыка М. Пятрэнкі

У суботу Янка ехаў ля ракі,
Пад вярбой Алёнка мыла ручнікі.
— Пакажы, Алёнка, броды земляку,
Дзе тут пераехаць на кані раку?

— Адчапіся, хлопец, едзь абы-куды
Не муці мне толькі чыстае вады.
У маркоце Янка галавой панік,
Упусціла дзеўка беленькі ручнік.

— Янка, мой сакол, памажы хутчэй,
Ой, плыве, знікае ручнічок з вачэй.
— Любая Алёна, я вады баюсь.
Пацалуй спачатку, што як утаплюсь?

Супыніўся гнеды пад вярбой густой,
Цалаваў Алёну Янка над вадой.
Стала ціха, ціха на ўсёй зямлі,
Па рацэ далёка ручнікі плылі...



# НІЎКА



„Зноў пра мяне газеты хлусяць".

### ВЫКЛЮЧЭННЕ

— Адзінае, што супярэчыць законам росту чалавечага арганізма, — гэта жывот, — даводзіў студэнт-медык на экзамене. — Той працягвае расці і пасля 25 гадоў.

### ЗДАГАДКА

— Дзіўна. Учора суседзі ні разу не лаяліся.

— Можа яны пасварыліся?

### СМАЧНАЯ РАБОТА

— Тата, кім ты працуеш? — спытаў у бацькі трохгадовы Вова.

— Зваршчыкам.

— А што ты варыш?

— Жалеза.

— І яно смачнае?

### ЗДЗІЎЛЕННЕ

— Невыносна адзінота, — паскардзілася мурашка.

— Хіба ты ў мурашніку адна? — дзівілася суседка.

### ДАСВЕДЧАНЫ

Семнаццацігадовы хлопец просіць у бацькі грошай на кішэнныя выдаткі.

— А ці ведаеш ты, сынок, — павучальна гаворыць бацька, — што ёсць рэчы важнейшыя за грошы?

— Ведаю, — адказвае хлопец, — але калі вядзеш іх у дыскатэку, грошы таксама не перашкодзяць.

### ТЭАТРАЛЫ

— З маім мужам немагчыма хадзіць у тэатр! У першым жа акце трагедыі ён пачынае плакаць.

— А мой муж пачынае плакаць, яшчэ калі я іду купляць білеты.

### ПРЫКМЕТА

— Скажыце, цягнік спазняецца?

— Так, на паўгадзіны.

— Так я і ведаў! Дык там мая жонка, а яна ніколі не можа прыехаць у пару.



Дапамагаючы блізкім, зайшоў вельмі далёка.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Позна вечарам з казіно выходзіць дама. Адразу каля яе аказваецца малады чалавек і гаворыць:

— Мадам, дайце мне грошай.

— Як вам не сорамна! — абураецца дама. — Такі малады і ўжо жабруеце!

— Выбачайце, мадам, — пакрыўдзіўся чалавек, — я не жабрак, я — грабежнік.

*

Бос — супрацоўніку:

— Дзюпон, вы верай і праўдай служылі мне дзесяць год. Я вырашыў аддзякаваць вам. Цяпер я буду называць вас „мсье Дзюпон".

*

Сябры спыніліся ў маленькай гасцініцы. Раніцай адзін пытае другога:

— Ну, як табе спалася?

— Вельмі дрэнна. У мяне ў ложку аказалася здохлая блыха.

— Дык яна ж не магла цябе панепакоіць.

— Яна дык не магла, але на яе пахаванне і памінкі сабралася з паўсотні пляменнікаў.

## МІНІВЕРШЫ

### АБ СПРЭЧКАХ

Гавораць мудрае ў народзе,
Што спрэчка ісціну народзіць,
І ўсё ж глядзі —
У спрэчках дурня абыдзі.

Міхась Скрыпка

З „Весніка Задрыпоніі"

### ВУЛІЧНЫ ШУМ ПЕРАМОЖАНЫ!

Жыхары дамоў, што выходзяць вокнамі на самую ажыўленую ў горадзе Н. Ціхую плошчу, цяпер не чуюць грукату аўтобусаў і самазвалаў. Усе гэтыя гукі з раніцы да ночы заглушае магнітафон аматара музыкі К. Дусікевіча.

### ПРАВІЛА МАЙСТРА ДУБОВІЧА

Не крыўдуй на жарт. Лепш вазьмі жартаўніка на заметку.




— Дазвольце зрабіць вам прапанову.





# Курёзы

### НЕ ВЫТРЫМАЛІ

Сапраўдную сенсацыю выклікалі ў англійскай палаце лордаў два яе члены — барон Пендар і барон Глануск. Яны разявілі раты і пачалі выпускаць гукі. Прычым даволі членараздзельныя і часам нават асэнсаваныя. А дык да гэтага барон Пендар праседзеў моўчкі 17 год, а Глануск захоўваў „абяцанне маўчання" ўдвая больш — 34 гады.

Наведваючы палату лордаў па восем разоў у месяц і атрымліваючы ад 12 да 25 фунтаў стэрлінгаў за кожны візіт, бароны маглі служыць жывой ілюстрацыяй формулы „маўчанне — золата".

Які шок абудзіў дар мовы паважаных старыканаў? Вельмі моцны: абмяркоўвалася пытанне, якое кранала іх кішэню. Гаворка была аб даходах англійскіх кампаній кабельнага тэлебачання, а менавіта ў гэтых фірмах вышэйспамянутыя лорды трымаюць салідныя пакеты акцый. Тут ужо, згадзіцеся, не да гульні ў маўчанку...

### ЯГО ЗАСЛУГА

„Усе аўтамабілі, на якіх ён не працаваў, вызначаюцца добрым тэхнічным станам".

(З допісаў у рэдакцыю)



Першая прыкмета дрэнных адносін — імкненне іх высветліць.